БЕЛАРУСКІ КАЛЕГІЮМ
Беларускі калегіум

# HOMO HISTORICUS 2016

## Гадавік антрапалагічнай гісторыі

Пад рэдакцыяй
доктара гістарычных навук Аляксандра Смаленчука

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

Рэдактар
доктар гістарычных навук Аляксандр Смалянчук

Рэцэнзенты:
доктар гістарычных навук Захар Шыбека, Універсітэт у Тэль-Авіве;
доктар Рымантас Мікніс, Інстытут гісторыі Літвы (Вільня);
доктар гістарычных навук Аляксандр Краўцэвіч, Варшаўскі ўніверсітэт;
доктар хабілітаваны Ганна Энгелькінг, Інстытут славістыкі
Польскай акадэміі навук (Варшава)

**Homo Historicus 2016.** Гадавік антрапалагічнай гісторыі / пад. рэд. Аляксандра Смаленчука. – Вільня: Беларускі калегіум, 2016. – 222 с.

*Homo Historicus 2016* працягвае традыцыі трох першых тамоў (2008, 2009 і 2012 гг.) з іх арыентацыяй на пашырэнне антрапалагічнага стылю мыслення ў аналізе мінулага. Большасць апублікаваных матэрыялаў датычыць феномену памяці ў самым шырокім яго разуменні.

ISSN 2424-5216
ISSN 2424-5224 (Online)

# “ПОЛОЦКАЯ СВОБОДНОСТЬ”: ТРАДЫЦЫЯ ГІСТАРЫЧНАЯ І ГІСТАРЫЯГРАФІЧНАЯ[1]

***Сяргей Емяльянаў***
*мгр. (Менск)*

### *Summary*

The article deals with the historical myth of the occupation of Połack by Lithuanian prince, the myth which is contained in the Lithuanian chronicles. There are two versions of the myth compared: the short and the extended. The author concludes that this myth served several important social functions in the society of the 15th–16th centuries. It helped Polack and all of Ruś to be included in the political system of the Grand Duchy of Lithuania and to justify traditional democratic organization of the society, that corresponded to the nobles' interests. Besides, this myth similar to the myth of Palemon related the history of the Grand Duchy of Lithuania and the history of Greece and Rome; it served to broadcast the ancient heritage to the Lithuanian-Rusian state. In addition, the fact of the myth forthcomation favors the sustained democratic community throughout history of the region from Old Ruś to the Grand Duchy of Lithuania.

Гісторыя Полацкай зямлі займае ў беларускай гістарыяграфіі асаблівае месца. Яна прыцягвае ўвагу не толькі даследчыкаў, але і шырокай грамадскасці. Падзеі, што адбываліся ў Верхнім Падзвінні ў IX–XIII стст., сталі адной з цаглінаў у падмурку калектыўнага разумення беларускай гісторыі. Полацкай зямлі адводзілася спецыфічнае месца як у працах даследчыкаў пачатку XX ст., так і ў працах тых, хто ствараў найноўшую айчынную гістарыяграфію ў познеса-

вецкія часы і ў перыяд незалежнасці. Не абмінаюць полацкія сюжэты і аўтары папулярных твораў гістарычнай тэматыкі, што спрыяе замацаванню ўстойлівых вобразаў і разуменню важнасці гэтых падзеяў у грамадскай свядомасці.

Асаблівае месца гісторыі Полацкай зямлі ў карціне мінулага, пашыранай як сярод даследчыкаў, так і сярод паспалітых грамадзянаў Беларусі, дазволіла нямецкаму аўтару Райнэру Ліндэру вылучыць існуючы "полацкі міф"[2]. У дадзеным выпадку размова вядзецца, зразумела, не аб вульгарным значэнні гэтага слова як "няпраўдзівай" інфармацыі аб мінулым, але аб навуковым канцэпце, што апісвае пэўны феномен грамадскай свядомасці. Кожнае грамадства імкнецца выпрацаваць максімальна простую і максімальна несупярэчлівую візію ўласнага мінулага, якая паклікана даць адказы на пытанні аб абгрунтаванасці існавання дадзенай супольнасці ў часе.

Райнэр Ліндэр разумеў пад "полацкім міфам" менавіта той гістарыяграфічны наратыў, які быў створаны ў навуковых, навучальных і папулярных тэкстах аўтараў пачатку XX ст. (Мітрафан Доўнар-Запольскі, Вацлаў Ластоўскі ды інш.)[3], а таксама ў разнастайных працах 1980-х – 2000-х гг. аўтарства Міколы Ермаловіча, Георгія Штыхава, Уладзіміра Арлова ды інш[4].

Аднак спецыфічнае разуменне гісторыі Полацкай зямлі можна знайсці нашмат раней. Яго асобныя рысы прасочваюцца ўжо ў тэкстах старажытнарускіх часоў. А ў перыяд існавання Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (прынамсі, ад XV ст.) выразна вымалёўваецца комплексная карціна полацкай гісторыі.

Менавіта ў XV–XVI стст. афармляецца комплекс "літоўска-рускага"[5] летапісання, які ўтрымлівае візію мінулага, адпаведную тагачасным інтарэсам грамадства і элітаў ВКЛ. Сярод іншага ў гэтых крыніцах прысутнічае "полацкі сюжэт", дзе раскрываецца тэма літоўска-полацкіх узаемадачыненняў і пераходу Полацкай зямлі пад уладу літоўскіх гаспадароў. Згаданыя ў гэтым "сюжэце" падзеі і асобы дазваляюць умоўна сумясціць гэты наратыў з полацкай гісторыяй старажытнарускіх часоў, а дакладней – XI–XII стст.

Параўнанне сюжэтаў "літоўска-рускіх" летапісаў са старажытнарускімі крыніцамі дае магчымасць убачыць, што ў першых з іх полацкі наратыў носіць відавочна легендарны ці напаўлегендарны характар. Аднак нельга адкідаць гэты "сюжэт". Вядома, што фальсіфікаты або выдуманыя эпізоды гісторыі самі па сабе могуць быць важнымі гістарычнымі крыніцамі. У дадзеным выпадку полацкі наратыў "літоўска-рускіх" летапісаў, безумоўна, не з'яўляецца адлюстраваннем рэальных падзеяў XII–XIII стст., але падае карціну ўяўнага мінулага для чалавека, які жыў у XV–XVI стст. Менавіта такім *павінна было быць* мінулае з пункту гледжання аўтара ці чытача эпохі Вялікага Княства Літоўскага.

Сюжэт аб пераходзе Полацкай зямлі пад уладу літоўскіх князёў утрымліваецца ў некалькіх летапісных зводах і хроніках. Іх папярэдні аналіз дазваляе вызначыць дзве асноўныя версіі сюжэта – “кароткую” і “пашыраную”. Кароткая і, відавочна, больш ранняя версія знаходзіцца ў такіх спісах летапісаў, як летапіс Красінскага, Альшэўскі, Румянцаўскі, Рачынскага, Еўраінаўскі, “Хроніка Быхаўца”, летапіс Археалагічнага таварыства[6]. Пашыраная версія пазнейшая. Мяркуючы па крыніцах, у якіх яна была змешчаная, узнікненне гэтай версіі можна датаваць другой паловай XVI ст. Пашыраны сюжэт сустракаецца ў “Хроніцы Польскай, Літоўскай, Жамойцкай і ўсёй Русі” Мацея Стрыйкоўскага, а таксама ў “Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай”[7].

Абедзве версіі маюць агульную сюжэтную лінію, аднак другая дапоўненая як дэталямі, так і спробай аналізу прычынаў спецыфічнай палітычнай сітуацыі ў Полацкай зямлі. Гэта, а таксама час з’яўлення пашыранага варыянта, дазваляе зрабіць папярэднюю выснову аб дапрацоўцы першаснага сюжэта ў інтэлектуальных асяродках сярэдзіны – другой паловы XVI ст.

Ранні варыянт полацкага наратыву задае цэнтральную сюжэтную канву дадзенага гістарычнага міфа. У ёй можна вызначыць тры асноўныя блокі. Першы апісвае сітуацыю ў Полацкай зямлі да літоўскага панавання. Пры гэтым падкрэсліваецца вечавы лад, што існаваў у далітоўскі перыяд. Спосаб палітычнага ўладкавання Полацка параўноўваецца з тым, які існаваў у Ноўгарадзе і Пскове. Апошнія былі своеасаблівымі “эталонамі” вечавой дэмакратыі ў сярэднявечных крыніцах.

У якасці другога сэнсавага блоку можна вызначыць апісанне ўласна “захопу” Полацка літоўскім князем, менавіта легендарным Мінгайлам. Такім чынам, пераход Полацка пад літоўскую ўладу выразна адносіцца да “даміндоўгавых” часоў, падзеі якіх ужо прасочваюцца ў “рускім” летапісанні. Як вынік, гэта адразу прыўносіць “літоўскі фактар” у полацкую гісторыю менавіта старажытнарускіх часоў.

На падставе такой храналогіі аўтары “літоўска-рускіх” летапісаў атрымалі магчымасць да пабудовы трэцяга сэнсавага блоку. Гаворка ідзе пра апісанне “літоўскіх” здзяйсненняў у “заваяваным” Полацку XII ст. Пры гэтым літоўскім гаспадарам прыпісваліся ўчынкі полацкіх князёў дынастыі Рагвалодавічаў, адлюстраваныя ў старажытнарускіх крыніцах, а, магчыма, таксама ў вусных успамінах таго часу. У выніку шэраг персаналіяў старажытнарускай полацкай гісторыі, такіх як Барыс-Рагвалод (Усяславіч?), Еўфрасіння Полацкая, Глеб (Усяславіч?), набыў літоўскія карані. Увогуле, у пераліку імёнаў сустракаюцца папулярныя сярод Рагвалодавічаў – Рагвалод, Васіль, Глеб і Барыс. Такім чынам, здзяйсненні некалькіх рэальных гістарычных асобаў-цёзкаў на старонках

літоўскага летапісання маглі прыпісвацца аднаму чалавеку. Так, нашчадкі Мінгайлы "будуюць" Сафійскі сабор, "засноўваюць" Барысаглебскі (Бельчыцкі) манастыр і, акрамя гэтага, "вяртаюць" палачанам вечавыя вольнасці.

У пашыраным варыянце сюжэт дапоўнены як дэталямі, так і спробай аўтараў растлумачыць прычыны спецыфічнага палітычнага ладу Полацкай зямлі. Для апісання сітуацыі да "літоўскай заваёвы" паўстаў асобны блок, які ў "Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай" меў назву *"О полоцкой свободности або Венеции"*[8]. Там разгорнута раскрываюцца ранейшыя звесткі аб "речи посполитой", усталяванай у Полацку, Ноўгарадзе і Пскове. Прычынамі адмаўлення гэтых земляў ад княскай улады лічацца міжусобныя войны і няздольнасць "рускіх" князёў абараніць сваіх падданых ад мангола-татараў. Таксама фігуруе інфармацыя аб кіраванні ў Полацку 30 "мужоў", якія нібыта выконвалі функцыі "сенатараў" і суддзяў.

Паказальна, што гэтая інфармацыя была некрытычна ўспрынятая не толькі даследчыкамі нацыянальнай гістарыяграфічнай школы пачатку XX ст.[9], але таксама прадстаўнікамі савецкай і постсавецкай гістарыяграфій. Згадка пра наяўнасць рады з 30 чалавек у Полацку XII–XIII стст., якая грунтуецца на крыніцы, аддаленай ад гістарычнай падзеі прыблізна на 300–400 гадоў, перыядычна сустракаецца ў літаратуры нават сёння[10].

На гэтым этапе аўтары тэкстаў ужо не задавальняюцца простай канстатацыяй факта "полацкай свабоднасці", але імкнуцца прапанаваць гістарычнае тлумачэнне гэтай з'явы. У духу свайго часу яны апелююць да знакавых і аўтарытэтных цэнтраў, менавіта да антычнай спадчыны, перададзенай на Русь з хрысціянскай Візантыі. Паводле паведамлення, прычынай узнікнення дэмакратычных практык на Русі стала дзейнасць хрысціянскіх іерархаў, грэкаў, якія прынеслі традыцыю антычнай дэмакратыі з Візантыі[11].

Пашырана падаецца таксама інфармацыя аб дзейнасці літоўскіх князёў на полацкім пасадзе. Як ужо адзначалася, сярод полацкіх князёў літоўскага паходжання фігуруюць персанажы з імёнамі, адпаведнымі рэальным прадстаўнікам дынастыі Рагвалодавічаў. Прычым у пераліку дасягненняў, зробленых тым ці іншым князем, фігуруюць учынкі розных полацкіх гаспадароў. Так, князю Барысу, які паўстае ў тэкстах як унук Мінгайлы, прыпісваецца пабудова Сафійскага сабора, царквы Спаса, Бельчыцкага і Спаса-Праабражэнскага манастыроў, усталяванне г. зв. "Барысавых камянёў" і заснаванне Барысава.

Для паўнаты карціны той формы полацкага міфа, што фігуруе ў позніх версіях, варта размясціць сюжэтныя блокі ў храналагічным парадку не толькі адносна лакальнай гісторыі, але і гісторыі сусветнай. Калі пры першым падыходзе атрыманая сюжэтная лінія аналагічная той, якая прасочваецца

падчас аналізу кароткага варыянта, то ў другім выпадку да яе ў якасці складовых частак далучаюцца тыя эпізоды, што вынікаюць з аўтарскіх тлумачэнняў прычынаў дэмакратычнага ладу Полацкай зямлі. Размешчаныя ў храналагічным парадку эпізоды наратыву выглядаюць наступным чынам:

1. Існаванне дэмакратыі ў антычнай Грэцыі;
2. Перанос дэмакратычных ідэяў на Русь разам з хрысціянізацыяй;
3. Існаванне дэмакратыі ў Полацкай зямлі;
4. Заваёва Полацкай зямлі Мінгайлам;
5. Хрысціянізацыя літоўскіх князёў і абвешчанае з іх волі “другое выданне” дэмакратыі.

Такім чынам, дадзеная форма сюжэта дазваляе выканаць дзве задачы. Па-першае, яна ўпісвае гісторыю Полацкай зямлі і Літвы ў кантэкст вядомай сучаснікам хады сусветнай гісторыі, а менавіта звязвае рэгіён з узорным для эпохі Адраджэння часам Антычнасці. Па-другое, ажыццяўляе трансляцыю гэтай традыцыі ўжо на само Вялікае Княства Літоўскае. Для аналізу гэтага важна вызначыць верагодныя матывы распрацоўкі як ранняй, так і пашыранай версіі.

Найперш неабходна адзначыць матыў, звязаны са статусам Полацкай зямлі ў ВКЛ і структурай самой дзяржавы. Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае можа быць разгледжана як імперыя, якая злучала розныя паводле этнічнай, рэлігійнай, культурнай ды іншых прыкметаў лакальныя супольнасці. Аб’яднаўчая ідэя магла адрозніваецца і эвалюцыянаваць у залежнасці ад абставінаў. Гэта магла быць задача калектыўнай абароны ад крыжакоў і татараў, злучэнне пад уладаю вялікага князя, а ў часы стварэння самога наратыву – нованароджаная ідэя супольнай Айчыны.

Безумоўна, дадзеная ідэя належала передусім да здабыткаў грамадскай думкі, што панавала ў шляхецкім стане, аднак яе можна вызначыць як ключавую, бо менавіта шляхта выконвала ролю “палітычнага народа” краіны. Так ці інакш, але ад таго, наколькі ўдала вырашалася праблема кансалідацыі, залежала існаванне самога Вялікага Княства. На гэта ўказваў досвед грамадзянскай вайны 1432–1438 гг., няўдача спробаў палітыкі культурна-рэлігійнай уніфікацыі дзяржавы, а таксама практыка грамадскага жыцця XVI ст., якая прадугледжвала свабодную публічную дыскусію і поліварыянтнасць пазіцыяў паводле разнастайных паказнікаў. У гэтым святле “полацкі міф”, паводле сюжэта якога, па-першае, адбылася заваёва Полацкай зямлі літоўскім князем, а па-другое, усе асноўныя дасягненні полацкіх гаспадароў “належалі” прадстаўнікам не мясцовай, але літоўскай дынастыі, адыгрываў першасную ролю ва ўпісанні Полацка і яго гісторыі ў кантэкст “літоўскай імперыі”.

Неабходна ўлічваць, што Полацк з'яўляўся адным з ключавых "рускіх" цэнтраў у межах ВКЛ. Яго знаходжанне пад уладай літоўскіх князёў, таксама як і "правамоцнасць" ды "спрадвечнасць" такога знаходжання, падмацоўвалі прэтэнзіі літоўскіх уладароў на тытулатуру "вялікіх князёў рускіх" і права валодання ўсімі "рускімі" землямі. Асаблівую актуальнасць гэтыя ідэалагічныя моманты набывалі ў супрацьстаянні з Вялікім Княствам Маскоўскім, князі якога пачынаючы прынамсі з другой паловы XV ст. усё больш выразна выяўлялі аналагічныя патрабаванні. На момант стварэння пашыранай версіі ў сярэдзіне – другой палове XVI ст. літоўска-маскоўскі канфлікт перажываў чарговую "гарачую" фазу, найвышэйшай кропкай якой была Лівонская вайна 1558–1582 гг. На працягу значнага перыяду гэтай вайны (ад 1563 да 1579 г.) Полацк знаходзіўся пад акупацыяй маскоўскіх войскаў. Такім чынам, падрабязная дэкларацыя "літоўскай" прыналежнасці Полацкай зямлі ў позняй рэдакцыі наратыву магла мець яшчэ адну прычыну, а менавіта – неабходнасць яшчэ раз актуалізаваць для свайго грамадства спрадвечнасць прыналежнасці Полацка да ВКЛ.

Трэці аспект аўтарскай матывацыі, які можна вызначыць, зыходзячы з характару паведамлення, магчыма, з'яўляецца найважнейшым. У дадзеным выпадку варта паставіць пытанне: што ўяўляў сабой аб'ект паводле сюжэта?

Відавочна, што найбольш выразнай характарыстыкай Полацкай зямлі ў тэксце паведамлення з'яўляецца яе дэмакратычны лад. Вышэй адзначалася, што сярод даследчыкаў сустракаліся выпадкі літаральнага ўспрыняцця інфармацыі звестак "літоўска-рускіх" крыніцаў аб рэспубліканскіх практыках і механізмах функцыянавання дэмакратыі ў Полацкай зямлі. Такія падыходы, відавочна, з'яўляюцца занадта просталінейнымі. Аднак ці можна цалкам выключыць момант ісціны ў паведамленнях крыніцаў XV–XVI стст.? Ці можа быць наратыў аб "полацкай свабоднасці", асабліва ягоны пашыраны варыянт, заснаваным на нейкіх пісьмовых крыніцах, што былі вядомыя ў XV–XVI стст., аднак не дайшлі да нашага часу, напрыклад на Полацкім летапісе? Гэта малаверагодная, але дапушчальная на нейкі адсотак магчымасць, адкідаць якую цалкам нельга, таксама як нельга прымаць на веру ды некрытычна трактаваць паведамленні "літоўска-рускага" летапісання.

Такая ж імавернасць павінна захоўвацца адносна таго, што перад намі прыклад гістарычнай памяці, магчыма, не пісьмовай, а вуснай традыцыі. Так, узгаданая вышэй рада з 30 "мужоў" можа быць як канструктам інтэлектуалаў XVI ст., так і рэальнай або блізкай да рэальнасці з'явай. Прынамсі, сістэма палітычнай арганізацыі, што існавала ў Полацкай зямлі, як і ў іншых старажытнарускіх землях, дапускала магчымасць існавання такога органа або палітыч-

най традыцыі. Гэта вынікала з сумяшчэння структуры вечавой сістэмы, куды ўваходзілі ўсе свабодныя гаспадары той ці іншай зямлі, са структурай рэальных эканамічных і сацыяльных адносінаў у грамадстве.

Відавочна, што сярод вечнікаў існавала істотная дыферэнцыяцыя паводле маёмаснай і, магчыма, родавай прыкметы. Вакол заможных ды знатных гаспадароў складаліся групы іх прыхільнікаў, да якіх можна ўмоўна ўжыць тэрмін “кліентэла”. Такія групы абаранялі інтарэсы сваіх патронаў на вечы, а патроны, якіх магло налічвацца якраз некалькі дзясяткаў на зямлю, маглі выконваць судовыя і распарадчыя функцыі пры князю або, што яшчэ больш важна, у яго адсутнасць, не прыбягаючы да збору ўсяго веча для вырашэння шэрагу пытанняў.

Звесткі аб дэмакратычным уладкаванні Полацкай зямлі могуць быць расцэнены як каштоўныя самі па сабе. Ці былі яны заснаваныя на невядомых сёння крыніцах або “гістарычнай памяці”? Ці склаліся ў думках шляхціцаў-інтэлектуалаў? У любым выпадку яны былі актуальныя для тагачаснага грамадства. Пра гэта сведчыць ужо той факт, што сюжэт не толькі ўстойліва захоўваецца, але і пашыраецца. Ён “абрастае” сюжэтнымі элементамі, што распавядаюць менавіта аб дэмакратычнай традыцыі. Грамадства канца XV–XVI стст. – гэта грамадства Статутаў і прывілеяў, якія замацоўвалі палітычныя правы шляхты, грамадства, дзе афармлялася адмысловая карпарацыя, чальцы якой былі не толькі рыцарамі, але і актыўнымі ўдзельнікамі палітычнага працэсу. Больш за тое, дэмакратычныя практыкі закраналі не толькі эліту ВКЛ, але і ўсіх яго абывацеляў. Межы гэтых практык уключалі гарадское самакіраванне, копныя сходы ў вёсках, розныя формы калектыўных аб’яднанняў (цэхі, брацтвы і г. д.), стварэнне на паўднёвых крэсах дзяржавы казацкай супольнасці, а таксама многія іншыя формы грамадскага жыцця, якія ўцягвалі чалавека, незалежна ад яго станавай прыналежнасці, у такія адносіны, дзе ён рэгулярна браў удзел у прыняцці калектыўных рашэнняў і нёс за іх адказнасць[12].

Такім чынам, трэці матыў летапіснага сюжэта можна акрэсліць як матыў трансляцыі дэмакратычнай ідэі. Гэтая трансляцыя выконвала не толькі функцыю сувязі з мінулым, але абгрунтоўвала неабходнасць і правамернасць рэспубліканскага ладу ў сучасным аўтарам Вялікім Княстве Літоўскім. На гэта ўказвае сама сюжэтная лінія, дзе ў якасці аднаго з асноўных элементаў выступае “другое выданне” дэмакратыі, здзейсненае праз князя літоўскага паходжання. Дэмакратыя, паводле “полацкага міфа” летапісаў, мае антычны генезіс, аднак яна легітымізуецца як традыцыяй і рэлігіяй, так і ўладаю літоўскага гаспадара.

Гістарычная міфалогія Вялікага Княства Літоўскага ў святле трансляцыі антычнай традыцыі ўжо разглядалася ў літаратуры. Так, Дарус Куоліс прапанаваў

тэорыю двух варыянтаў трансляцыі рымскай спадчыны ва Усходняй Еўропе. На думку літоўскага даследчыка, у Вялікім Княстве Маскоўскім адбылася *translatio imperii* (якую коратка можна выявіць праз канцэпт "Масква – трэці Рым"), у той час як у Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім запанавалі ідэі *translatio rei publicae*[13]. Апошнія грунтаваліся на "рымскім паданні" аб паходжанні літоўскіх князёў і знаці, паводле якога легендарны Палямон са сваякамі ды паплечнікамі вымушаны быў пакінуць Рым, ратуючыся ад "тырана" Нерона[14].

Аднак схему трансляцыі варта паспрабаваць апісаць іншым чынам. Папершае, абодва "рымскія" старажытныя цэнтры – Рым і Канстанцінопаль – аднаchасова былі носьбітамі адной імперскай традыцыі. Гэта быў "Рым" у шырокім сэнсе слова, апеляцыя да якога была калі не абавязковай, то карыснай для большасці еўрапейскіх палітычных аб'яднанняў. Сама па сабе імперыя як форма аўтарытэту і спосаб арганізацыі ўладнай сістэмы актыўна пераймалася сярэднявечнымі і раннемадэрнымі дзяржавамі. Прыклады Вялікага Княства Літоўскага і Вялікага Княства Маскоўскага знаходзяцца ў гэтым шэрагу. Абедзве дзяржавы можна разглядаць у якасці імперыяў-пераемніцаў. Таму *translatio imperii* варта бачыць таксама ў Літве, з той толькі розніцай, што тут яна праявілася не настолькі выразна, як у Маскве, дзе ўзнік кароткі і дакладны гістарычны міф, увасоблены, у прыватнасці, у тэксце "Сказания о князях Владимирских". Таксама ў гістарычнай міфалогіі ВКЛ не было такіх аўтарытарысцкіх канатацыяў, якія ўтрымліваюцца ва ўзгаданым маскоўскім тэксце. Можна сказаць, што кожная з элітаў узяла з рымскай спадчыны тое, што лічыла патрэбным. "Маскавіты" – ідэю абсалютнай улады, сканцэнтраванай у руках богападобнага імператара, а "ліцвіны" і "русіны" – ідэю рэспублікі і прававой дзяржавы.

Літоўскі "рымскі міф" указвае на ідэю пераносу імперскай спадчыны ўжо сваім сюжэтам. На гэта ж указвае таксама "полацкі міф". Характэрна, што сюжэты аб падарожжы Палямона і аб "полацкай свабоднасці" з'яўляюцца ў адных і тых жа крыніцах амаль сінхронна. Твор Мацея Стрыйкоўскага, дзе падаецца разгорнуты варыянт полацкага наратыву, утрымлівае таксама і інтэлектуальны разбор "рымскага міфа" з доказамі на карысць гістарычнасці Палямона. Аўтар нават "знаходзіць" лацінскі адпаведнік яго імені – Публій Лібон (Publius Libo)[15]. Відавочна, што інтэлектуал XVI ст. лічыць патрэбным не толькі прызнаваць праўдзівасць абодвух паведамленняў, але таксама ў першым выпадку дадаткова абгрунтаваць, а ў другім – адшукаць "імперскі след" у дадзеных сюжэтах.

Міфы аб Палямоне і аб дэмакратыі ў Полацку ўвасабляюць сабой два шляхі трансляцыі антычнай спадчыны, якія ўмоўна можна назваць "рымскім"

і “грэцкім”. Яны пераносілі на глебу “літоўска-рускай” дзяржавы ўладны пачатак імперыі, звязваючы ВКЛ з антычнымі “ўзорнымі” цэнтрамі. Але ў той жа час яны ўтрымлівалі ідэю перавагаў рэспубліканскай арганізацыі дзяржавы. Гэтую функцыю выконваў як “рымскі міф”, так і літоўскі гістарычны міф аб Полацку. Зразумела, што калі ў першым сюжэце рэспубліканізм быў дадатковай ідэяй, то ў другім ідэя народакіравання адыгрывала цэнтральную ролю. Акцэнт на дэмакратыю, верагодна, пераследаваў канкрэтную задачу, а менавіта ідэалагічнае абгрунтаванне той палітычнай сістэмы, што склалася ў ВКЛ. І паказальным з'яўляецца тое, што гэтай мэце служыла інфармацыя аб старажытнарускіх каранях, выяўленая ў “полацкім міфе”. Такім чынам, праз прызму гістарыяграфічнага казусу можна ўбачыць рэальную палітычную традыцыю, якая існавала для аўтараў позняга Сярэднявечча і ранняга Новага часу, для носьбітаў якой Полацкая зямля з'яўлялася эталонам народакіравання нароўні з узорнымі грамадствамі Антычнасці.

Яшчэ адным магчымым тлумачэннем з'яўляецца наяўнасць для аўтараў канца XV–XVI стст. побач з нейкай уяўнай традыцыяй традыцыі абсалютна рэальнай. Вядомыя сучасным даследчыкам праявы рэспубліканскай традыцыі ў ВКЛ эпізадычныя, але ўстойлівыя[16]. Адсутнасць крыніцаў тут не можа служыць доказам адсутнасці той ці іншай формы ўплыву грамадства на палітычнае жыццё Полацкай зямлі XIII–XV стст. “Літоўскі” рэспубліканізм, што фіксуецца дакументальна на мяжы Сярэднявечча і ранняга Новага часу, нельга разглядаць як прынцыпова новую з'яву. Ён грунтаваўся ў т. л. менавіта на “рускай” вечавой традыцыі. Безумоўна, сацыяльныя адносіны XV–XVI стст. моцна адрозніваліся ад тых, што існавалі ў раннім і высокім Сярэднявеччы, аднак папраўка на сацыяльна-эканамічную эвалюцыю толькі пацвярджае думку аб непарыўнасці рэспубліканскай практыкі.

Асноўнай адзінкай ранняй грамадскай сістэмы быў свабодны землеўласнік, які меў правы і выконваў абавязкі валодання маёмасцю, удзелу ў войнах і народных сходах. Такая мадэль з'яўляецца агульнай для “варварскай” еўрапейскай Поўначы. Эвалюцыя вытворчых адносінаў вяла да падвышэння эфектыўнасці сельскагаспадарчай і рамесніцкай працы, а эвалюцыя вайсковай справы – да пераходу на пераважна коннае і цяжкаўзброенае войска. Гэта зніжала як матывацыю, так і магчымасці ўдзелу ў войнах для большай часткі вечнікаў.

Такім чынам, характарыстыкам, якім у XI–XII стст. адпавядала значная частка мужчынскага насельніцтва, у XV–XVI стст. маглі адпавядаць толькі тыя, хто захаваў свае зямельныя маёмасныя правы, несучы за гэта збройную службу (“абарону земскую”). Жорсткі прынцып сувязі землеўладання з аба-

вязкам удзелу ў войнах прапісваецца яшчэ ў літоўскіх Статутах[17]. Толькі ў дадзеным выпадку тыповы ваеннаабавязаны – не свабодны селянін або гараджанін, а рыцар-шляхціц, жыццядзейнасць і магчымасць выправы на вайну для якога забяспечваюцца працай пазямельна залежных ад яго людзей. Палітычныя правы гэтай катэгорыі вольнага насельніцтва заставаліся ў аснове сваёй нязменнымі, што якраз засведчыла гістарычная міфалогія Вялікага Княства Літоўскага.

## *Заўвагі*

1 Аснову артыкула склаў рэферат, з якім аўтар выступіў на IV Кангрэсе даследчыкаў Беларусі (Коўна, 3–5 кастрычніка 2014 г.). – заўвага рэд.

2 Лінднэр Р. Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX ст. Санкт-Пецярбург, 2005. С. 81–85, 450–453.

3 Тамсама. С. 81–85.

4 Тамсама. С. 450–453.

5 У сучаснай беларускай гістарыяграфіі для азначэння падзеяў і з'яваў, звязаных з ВКЛ, ужываецца характарыстыка "літоўска-беларускі", што з'яўляецца экстрапаляцыяй сучасных нацыянальных катэгорыяў на мінулае. Аўтар гэтага артыкула лічыць неабходным перадаваць гістарычную рэчаіснасць у адпаведных ёй тэрмінах. З улікам таго, што аснову ВКЛ складалі часткі, вядомыя як "Літва" і "Русь" (не звязаныя наўпрост з сучаснымі нацыямі і дзяржавамі), у тэксце паслядоўна захоўваецца азначэнне "літоўска-рускі".

6 Летапіс Красінскага // Хронікі і летапісы Беларусі. Сярэднявечча і раньнемадэрны час. Мінск, 2010. С. 180–181; Альшэўскі летапіс // Хронікі і летапісы Беларусі… С. 205; Румянцаўскі летапіс // Хронікі і летапісы Беларусі… С. 235; Летапіс Археалагічнага таварыства // Хронікі і летапісы Беларусі… С. 264; Летапіс Рачынскага // Хронікі і летапісы Беларусі… С. 284–285; Еўраінаўскі летапіс // Хронікі і летапісы Беларусі… С. 325–326; Хроніка Быхаўца// Хронікі і летапісы Беларусі… С. 682–683.

7 Stryjkowski M. Kronika Polska, Litewska, Żmódzka i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846. S. 239–243; Хроніка Літоўская і Жамойцкая // Хронікі і летапісы Беларусі… С. 413–417.

8 Хроніка Літоўская і Жамойцкая // Хронікі і летапісы Беларусі… С. 413.

9 Ігнатоўскі У.М. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Мінск, 1992. С. 48.

10 Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т.1. Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзіны XIII ст. Мінск, 2000. С. 220.

11 Хроніка Літоўская і Жамойцкая // Хронікі і летапісы Беларусі… С. 413 – 414.

12 Сулима Камінський А. Історія Речі Посполитої як історія багатьох народів, 1505–1795. Громадяни, їх держава, суспільство, культура. Київ, 2011. С. 23.

13 Куоліс Д. Масква і Літва: translatio imperii, translatio rei publicae // Беларускі гістарычны агляд. Том 14, сшыткі 1–2 (26–27). 2007. С. 3–25.

14 Хроніка Літоўская і Жамойцкая // Хронікі і летапісы Беларусі… С. 405–407.

15 Stryjkowski M. Kronika… S. 65–67.
16 Макараў М. Ад пасада да магдэбургіі: прававое становішча местаў Беларускага Падзвіння ў XIV – першай палове XVII ст. Мінск, 2008. С. 35–38.
17 Статут Вялікага княства Літоўскага 1529 г. // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 3. Дадатак. А–Я. Мінск, 2010. С. 439; Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 г. // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 3. Дадатак. А–Я. Мінск, 2010. С. 486; Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 г. // Вялікае княства Літоўскае: энцыклапедыя. Т. 3. Дадатак. А–Я. Мінск, 2010. С. 565.